Цана асобнага нумару 2000 м. п.

# СЬЦЯГ

аднаднёўка

Вільня, Нядзеля, 19-га жніўня 1923 г.

## У чым наша моц?

Калі паўглядаемся на тую нязвычайную „ўгадовасьць“, якую ў адносінах да польшчыны ўва ўсіх яе відах выяўляюць расейскія элементы ў межах Польшчы, дык робіцца неяк дзіўна і—прыкра.

Прыкра, бо від утраты людзьмі пачуцьця сваей чалавечай годнасьці ня можа рабіць прыемнага ўражаньня. А якраз гэтым хварэюць расейскія элементы, воляй лёсу апынуўшыяся на землях, што ўваходзяць у склад Польскага гаспадарства.

Нам вядомы такія факты. На вуліцы сустракаюцца два пэдагогі, з царскіх часоў „працаваўшыя“ разам дзеля „карысьці бацькаўшчыны“ над абмаскоўленьнем віленскае моладзі. Адзін ужо „устроіўся“ ў... польскай гімназіі з расейскай (пакуль-што) выкладовай мовай. Другі — толькі што прыехаў. Вось, навапрыездны з радасьцяй кідаецца да быўшага „таварыша па працы“ і прамаўляе, ведама, парасейку. Але „абжыўшыся“ таварыш рэзка спыняе яго.... папольску!

А прачытайце ў „Dzien. Wil.“ пісьмы некалькіх расейцаў, якіх газэта неяк мімаходам зачапіла, і якія з гэтае прычыны публічна выяўляюць свой.... „польскі патрыятызм“! Гэта было настолькі фальшыва і агідна, што нават Обсты не маглі ператравіць гэных заявярэньняў старых „абрусіцеляў“ у іх гарачай любві да „новаго отечества“....

Чаму гэта так? Чаму гэтыя йшчэ так нядаўна „паны палажэньня“ — такія гордыя сваей расейскай нацыянальнасьцяй — гэтак лёгка зракаюцца сваей роднай мовы і старое бацькаўшчыны?

Бязспрэчна, ёсьць у гэтым свой трагізм—**трагізм слабасьці** малой жмені расейскіх інтэлігэнтаў, адарваных ад роднага караня, не апіраючыхся на народную масу, бо яна для іх тут—чужая і часта варожая. Якжа часта пачуцьцё слабасьці вядзе да рэнэгацтва, нават да подласьці....

Гледзячы на тое, што робіцца з такой, на пагляд, культурна сільнай расейскай інтэлігэнцыяй, асабліва на нашым беларускім грунце, мімаволі раўнуеш яе паступкі з тэй пазыцыяй, якую пад польскай уладай займае беларускае грамадзянства, так слаба арганізованае, так беднае йшчэ тутака культурнымі сіламі. Апрача рэдкіх адзінак, беларуская інтэлігэнцыя з агідай адкідае палітыку, якой расейцы некалі далі імя **„подличанья“**. Беларускаму інтэлігэнту зачынены блізу ўсе дарогі да працы і заробку, яго „бяруць голадам“,—але ўзяць ня могуць. І цэлы рад беларускіх культурных установаў, хоць і мадзеюць без урадовае дапамогі з тых грошай, якія ў пастаці падаткаў плоціць і беларускі народ,—ды не адступаюцца ад свайго нацыянальнага штандару, ня йдуць на паклон „паном палажэньня“ дзеля жмені марак....

Было-б лішне сьмелым шукаць прычыну розьніцы становішча беларусаў і расейцаў у Польскай дзяржаве у ўласьцівасьцях душы аднае і другое нацыянальнасьці. І мы думаем, што прычына гэная крыецца ў зусім другім,—а іменна ў тым, што мы, беларусы **маем навакол сябе родную беларускую народную стыхію**—пад той час, як расейскія элемэнты ня чуюць пад сабой ніякага грунту, бо тутака **няма расейскае народнае масы**.

Маса народная—жывы народ беларускі, хаця і загнаны, і часта запужаны, і зьбедзіўшыся ад розных крыўд і зьдзекаў пануючых клясаў чужое нацыянальнасьці, — вось **наша моц**, вось той грунт, на якім беларуская інтэлігэнцыя можа крэпка абаперціся, ведаючы, што **масы ніхто і нішто перамагчы ня здолее**. Сто з лішкай гадоў яе стараўся абмасковіць расейскі ўрад — і нічога не дапяў. Ня здолеюць перарабіць нашу беларускую душу ў масе і ўсе патугі польскага ваюючага нацыяналізму.

Мо' каму пакажацца гэта лішне сьмелым, нічым неабаснованым?

Каб нам такога закіду не маглі зрабіць, зьвернем увагу на некалькі мамэнтаў з жыцьця Заходняе Беларусі за апошнія гады. Адзначым толькі, што пад уладу Польшчы наша маса папала **зусім неарганізованая**, ня спаяная ніякімі моцнымі арганізацыямі ці то палітычнымі, ці соцыяльнымі і эканамічнымі.

Вось-жа, калі адбываліся выбары ў так званы віленскі „Сойм“, які **павінен** быў высказацца за далучэньне Віленшчыны да Польшчы,—даволі было, каб, ня гледзячы на шалёную агітацыю польскіх партыяў і ўлады, Беларускі Нацыянальны Камітэт адмовіўся ад учасьця ў выбарах, і нашы народныя масы не далі ніводнага мандату так званым „Аляксюкоўцам“, не шкадаваўшым ні заходаў, ні „чужых“ грошай на агітацыю за выбары ў гэты „Сойм“. Народ, ня гледзячы на сваю неарганізованасьць, у патрэбны мамэнт здалеў выступіць солідарна і, на просты кліч сваіх правадыроў, пазбаўленых ўсялякае магчымасьці ўсялякае агітацыі, **ад учасьця ў гэным „эрзац-плебісцыце“ устрымаўся**....

Калі-ж перад выбарамі ў Варшаўскі Сойм кіраўнічыя арганізацыі беларускага грамадзянства прызвалі нашу масу да **чыннага** ўчасьця ў выбарах,—дык тая-ж неарганізованая, запужаная і загнаная беларуская вёска дала сотні энэргічных ідэйных выбарных працаўнікоў і **дайшла на выбарах да бліскучае пабеды**, якая здумела нават самых „паноў палажэньня“, разьлічаўшых, што ў найлепшым для беларусаў прыпадку яны правядуць у Сойм ня больш 5—6 паслоў....

Што гэта паказуе, аб чым сьведчыць?!

Паўтараем: прыймаючы пад увагу адсутнасьць шырокіх нацыянальных партыйных ці іншых арганізацыяў, прыймаючы пад увагу процідзейнасьць варожых нам, але багатых грашмі элемэнтаў, трэба прызнаць факт, што беларуская вёска ўжо прадстаўляе бязспрэчную **нацыянальную сілу**, што **моц яе крыецца ў нацыянальнай і соцыяльнай сьвядомасьці**, што беларускае насяленьне пад Польшчай — гэта быццам **армія, распушчаная да хат**: у патрэбны мамэнт, на кліч сваіх правадыроў, гэта армія ўмее пастроіцца ў баявы шых і дайсьці перамогі над сваімі ворагамі.

У гэтай сьвядомасьці нашае масы, у гэтай здольнасьці яе да солідарнага, згоднага пасыўнага ці актыўнага выступленьня ў патрэбную часіну — наша моц, аснова нашае працы, грунт для крэпкае, нязломнае веры, што з усіх тых цяжкіх спроб, якія нам прыгатавала польская дзяржаўнасьць, мы выйдзем пераможцамі.

У гэтым такжа—сіла нашае інтэлігэнцыі. І няхай яе перасьледуюць, няхай садзяць у вастрогі, пазбаўляюць магчымасьці працы ня толькі ў дзяржаўных, але і ў сваіх нацыянальных установах, забараняючы адкрываць школы, зачыняючы часопісі і другія культурныя арганізацыі,—гэтыя ўдары не дасягнуць сваей мэты. У сувязі з сваей масай наша інтэлігэнцыя—нязломна!

Мімаволі ўспамінаецца нам адзін вершык Максіма Багдановіча, каторы пераказаў у ім грэцкую легэнду аб Антэі. У барацьбе Антэя з Гэраклам перавага сілы была на старане апошняга. Але Антэю памагала Маці-Зямля, і кожын раз, як вораг валіў яго ў пыл, Гея ўдыхала ў грудзі яго новую сілу, і найвялікшы волат ня мог яго перамагчы, пакуль ён меў **сутычнасьць з зямлёй**.

Ня здолеюць перамагчы і нас ворагі нашага народу, пакуль мы будзем апірацца на нашу родную Матку-Зямлю, пакуль сілу будзем чарпаць у нашай народнай масе.

**аль.**

## Чаму Польшча ня можа быць сапраўды дэмакратычнаю?

Яшчэ Ласаль шмату часу назад сказаў, што „сутнасьць констытуцыі — гэта рэальная комбінацыя сіл данае дзяржавы“.

Ці-ж пісаная польская констытуцыя хоць крыху адбівае гэтую самую рэальную комбінацыю сіл?

Перш за ўсё констытуцыя Польшчы пісалася Установчым Соймам, які быў Пілсудскім склікаў пасьпешна ў ваенны час, Соймам амаль што выняткова польскім, бо, апрача немцаў ды жыдоў, нацыянальныя меншасьці ніякога голасу пры пісаньні констытуцыі ня мелі. Клерыкальна, нацыяналістычна й патрыятычна настроеныя польскія працоўныя масы шмат пастуціліся сваімі клясавымі інтарэсамі на карысьць сваіх праціўнікаў—абшарнікаў і капісталітых у імя нацыянальнае еднасьці.

Аб прадстаўніцтве беларусаў і украінцаў у Установчым Польскім Сойме не магло навет і гутаркі быць, бо гэтак празваныя „Усходнія Землі“ не ўваходзілі а ні фактычна, а ні юрыдычна ў склад Польскай дзяржавы падчас выбараў да Установчага Сойму.

Досіць прыпомніць, што падчас окупацыі палякамі Меншчыны ў 1919 г. правая польская большасьць быўшага Установчага Сойму правяла ў ім пустую рэзалюцыю аб правядзеньні на „Усходніх землях“ плебісцыту.

Окупаваўшы часьць украінска-беларускіх земляў, тагочасны Галава Дзяржавы Яз. Пілсудскі выпусьціў у Вільні вядомую адозву да „жыхароў быўш. Вялікага кн. Літоўскага, выразна падкрэсьліўшы адасобленасьць гэтых **жыхароў** ад Польскай дзяржаўнасьці і дакляруючы самыя прынадныя для іх магчымасьці выяўленьня свае свабоднае волі навет „бяз ніякага націску з боку Польшчы“, як літаральна гаварылася ў сказанай адозьве.

З гэтага ясна, што Зах. Беларусь і Валынь, ці паводлуг офіцыяльнае мовы „Крэсы Вcходне“—Ўсходнія Землі“,—ніколі не залічваліся аўторамі Польскай Констытуцыі да рэальных сіл Рэспублікі.

На пытаньне аб прыналежнасьці да Польшчы, прыналежнасьці стаўшай цяпер фактычнаю, кожны беларус і украінец мае гатовы адказ—прыказку:

— Без мяне—мяне жанілі!

Калі, лёгка кінуўшы вокам, расквалiфікаваць сягоньня рэальныя сілы Польскае Рэспублікі, дык акажацца, што як-бы хітра, з пэўнаю закваскаю дэмакратызму, ня была напісана панамі констытуцыя, а яна ўсё-ж такі далёка не адбівае ў сабе рэальнай комбінацыі сіл гаспадарства.

Інтарэсы розных слаёў насяленьня ў Польшчы гэтак шчапаюцца, гэтак даходзяць да рэзкай процілежнасьці, што нелюэндэцкай большасьці Польскай Констытуанты было спраўляцца з задачаю натаваньня рэальнай комбінацыі сіл на паперы.

Магнатэрыя Польшчы, бароячы свае кішанёвыя арыстакратычныя інтарэсы, заўсёды хоча й хацеці будзе бачыць сваю бацькаўшчыну якнайрэакцыйнейшаю, бо толькі гэткую бацькаўшчыну яна гатова зваць яе сапраўдным імем. Старыя яснавяльможныя магнаты, ды абшарніцтва ня мысьляць іншае Польшчы, як „możnowładztwo“ паноў з аднаго боку і няволю хлопаў з другога.

Ў нас, дзе яны спатыкаюць менш пакорнага раба сваіх апэтытаў, абшарнікі шалёную нянавісьць да „хамаў“ гадуюць у сваіх душах яшчэ большую, чымся ў „rdzennej“ Польшчы.

Капіталісты ўсіх нацыянальнасьцяў і масьцяў хоцькі-ня-хоцькі салідарызуюцца з абсолютна рэакцыйнымі магнатамі-абшарнікамі, хоць сама па сабе буржуазія лібэральней пазірае на рэчы і нічога ня мае процi фігавых лісткоў дэмакратычнай законнасьці, якая ані не зьмяншае самога прынцыпу эксплёатацыі працоўных масаў.

У працілежнасьць абшарніцка - капіталістычнай буйна-буржуазнай жмені стаіць шматмільённая маса працоўнага сялянства й рабочых, паўтыканая дзе-нядзе дробна-мяшчанскаго дэмакратыяй (ха-дэкі), кулацкім сялянствам (Пяст) ды жоўтаколернаю шовіністчнаю жменяю рабочых (N. P. R.).

І калі, напрыклад, цяпер на дзяржаўным караблі рэй вядзе Хіена з Пястам, якія прадстаўляюць інтарэсы бязумоўнай, хаця і дужай эканамічна, меншасьці насяленьня, дык рэшце насяленьня—працоўнай і пролетарскай большасьці яго робіцца гарачэй, як у пекле.

І толькі нацыяналістычная натура бяднейшага польскага сялянства, прадстаўленага ў парлямэнце „Wyzwoleniem“ ды сацыяль-імпэрыялістычная ідэолёгія Польскае Соцыялістычнае Партыі ў рабочых масах пазваляюць хіена-пястаўскаму ўраду пачуваць сябе не саўсім блага.

Польскі нацыяналізм пэпээсаў і вызваленцаў выклікае зразумелы свой уласны нацыяналізм сярод беларуска-украінскіх працоўных масаў, пасланых у парлямэнт сваімі галасамі беларускіх ды украінскіх нацыяналістычных дзеячоў.

А пад сычэньне выплыўшыга адсюль шовінізму паміж аднароднымі слаямі польска-беларуска-украінскіх працоўных масаў „Васька слушает да ест“—Хіена з Пястам спакойна робіць сваю справу.

Прадстаўніцтва жыдоўскага і нямецкага насяленьня ў Сойме адбівае выразна, як у люстры, перавагу сярод гэтых нацыянальнасьцяў буржуазіі з яе спэцыфічным кішанковым нацыяналізмам.

Вось, больш-менш, як выглядае рэальная комбінацыя сіл у цяперашні час.

Антагонізм нацыянальны, як туман, засьцілае сабою клясавую сьвядомасьць большасьці насяленьня і замест сапраўднае **працоўнае большасьці** на арэне польскай палітыкі, хоць іншы раз і без кунтуша і навет часамі бяз гальштыка, гарцуе „większość polska“ (**польская** большасьць).

Дзе-ж тут магчыма гаварыць аб дэмакратызьме, калі **аднародны** з беларусам, ці украінцам малазямельны й безьзямельны селянін, або гарадзкі пролетары **паляк**, разам з пладом свае крыві працоўным інтэлігэнтам, дастае фактычна большыя правы ў імя свае польскасьці ў параўнаньні са сваім працоўным братам, маючым іншую мову і іншыя звычаі і аднесеным дзяржаўнаю **польскаю** ўладаю да катэгорыі пасынкаў польскае „ojczyzny“!

Асадніцтвам і школьнаю палянізацыяй на крэсах хітрыя правіцелі Рэспублікі далікатненька ўлагоджваюць нацыянальны эгоізм **польскага** незаможнага селяніна ды **польскага** рабочага.

**Пачуцьцё нацыянальнага самалюбства у душы працоўных польскіх сялян і рабочых пераважае сілу пачуцьця й разуменьня клясавых інтарэсаў сваіх.**

Яўная аднароднасьць гэтых інтарэсаў з інтарэсамі роўных паляком украінцаў, беларусаў і іншых штучна робіцца няроўнаю—яна запамінаецца душою засьлепленага польскага працаўніка.

Натуральная комбінацыя рэальных сіл гаспадарства комбінацыя **паводлуг клясавага** прынцыпу,—замяняецца комбінацыяй сіл па прызнаку нацыянальнаму.

У сучасным жыцьці Польшчы гэта яшчэ адна фальш, якую не хацеў назваць, ці мо' ня хоча слухаць пра яе, быўшы пэ-пэ-эс і быўшы Начальнік Польск. Дзяржавы Пілсудскі, гаварыўшы аб фальшы на надяўнім зьезьдзе легіянэраў у Львове. Гэта фальш была і пры Пілсудскім, ёсьць і пры Хьена-Пясьце дый ведама, што саўсім магчыма яна пры Тугутах і Дашынскіх.

Бо і гэтыя сягоньняшнія павадыры польскага сялянства і рабочых зьяўляюцца добрымі дэмакратамі (Дашынскі навет і соцыяліст), але-ж толькі ў межах **свайго** „польскага“ гнязда, нічога ня маючы процi колёнізацыі й падзелу,—жахоўнай вівісэкцыі,—непалякоў.

Рост беларускай нацыянальнай сьвядомасьці павінен ісьці ўпоруч з ростам **сьвядомасьці клясавай**, каб ня быць нам карыкатураю на нашых цяперашніх уладароў.

Польшча ніяк ня можа выйсьці на шлях дэмакратызму, бо спавівае яе шовіністычна-нацыяналістычны туман, бо засыпаюцца нацыянальным антагонізмам вочы працоўных масаў, каб ня ўбачылі яны, што ўсюды йдзе цяпер рашучая барацьба клясаў—кляса павукоў эксплёататараў усімі сваімі спрактыкованымі хітрасьцямі стараецца смактаць усё, што можна з клясы слабых рабоў капіталу, з вечных жрацоў працы—працоўных масаў зямлі і фабрык.

**К. М.**

# Палітычныя падзеі.

### Завіруха.

У той час, калі ў Нямеччыне на парадку дня стаіць рэвалюцыйная ломка падстаў буржуазнага ладу, калі ўлада ў шмат якіх мясцох Нямеччыны знаходзіцца ўжо ў руках пролетарыяту, калі рэвалюцыя з Нямеччыны можа хутка перакінуцца ў другія краіны Эўропы—буржуазныя ўрады Антанты заняты сваімі старымі споркамі, якім спосабам выціснуць з Нямеччыны тыя мільярды, акія яна забавязалася заплаціць па Вэрсальскаму трактату.

Пуанкарэ, як і ўперад, заяўляе аб тым, што Францыя спагоніць усе нямецкія даўгі, адтрымаець найболей культурным спосабам, а новы нямецкі канцлер—Штрэзэман—усё яшчэ цьвердзіць аб пасыўным спраціве ў Руры і г. д. Дзікай выдаецца гэтая шалёная прагавітасьць выціснуць мільярды з таго народу, які, дзякуючы праступнай імпэрыялістычнай палітыцы, стаіць перад вялізарным гаспадарчым крызысам, дзе голад ужо ахоплівае вялікія прамысловыя цэнтры і гоніць работнікаў на вуліцу, выклікае галодныя забурэньні і на вуліцах льецца кроў.

Трэба думаць, што нямецкая буржуазія робіць стаўку на рэвалюцыю, каб якнайбольш вытаргаваць у сваіх францускіх таварышоў. Францыя, пакладаючы вялікую надзею на сваю мілітарную сілу, спадзяецца пры помачы залежных ад яе саюзьнікаў, умацавацца ў нямецкіх акраінах, як на захадзе, так і на ўсходзе і тым забраніраваць сябе ад рэвалюцыйнай, паменшанай тэрыторыяльна, Нямеччыны. Англія, як відаць, зусім думае адмежавацца ад гнілой Эўропы, і падобна Амэрыцы, ня ўмешвацца ў яе ўнутраныя справы, астаўляючы Францыю, становячайся гатоваю наводзіць парадкі ў усе больш рэволюцыйнай Эўропе.

Аб гэтым піша корэспондэнт „Дэйлі Тэлеграф“, які паведамляе, што на далейшыя ўступкі Англія ня пойдзе, што Англія зусім ня хоча працаваць на карысьць міжсаюзнае згоды, якая можа быць адтрымана толькі коштам Англіі. Пагляд аб адмежаваньні ад Эўропы шпарка пашыраецца сярод ангельскіх міністраў і Англія ня хоча мяшацца ў Эўрапэйскія конфлікты, якія зусім непатрэбны для яе інтарэсаў. Галоўныя рынкі Эўропы зруйнованы і ўтрачаны для Англіі на шмат гадоў. Трэба шукаць новых рынкаў у калёнях, Паўднёвай Амэрыцы і Кітаі.

Тыя капіталістычныя дзяржавы, якія найменш пацярпелі ў часе сусьветнай вайны і дзе рэвалюцыйны рух ня так моцны, усяляк стараюцца адмежавацца ад старой будыніны Эўропы, гатовай з дня на дзень заваліцца.

**Яз.**

## ПОЛЬШЧА.

„Times“ паведамляе, што сябра ангельскага парлямэнту Уонпд адтрымаў запросіны польскага ўраду прыбыць у Варшаву ў характары фінансавага дарадчыка.

---

Міністар прамысловасьці і гандлю п. Кухарскі вярнуўся з Парыжу. Аб мэтах і выніках яго паездкі няма ніякіх афіцыяльных паведамленьняў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Лідэр народнай нямецкай партыі Штрэзэман утварыў новы кабінэт, у склад якога ўвайшлі між іншымі партыямі і соцыяль-дэмакраты. Штрэзэман на паседжаньні парлямэнту сказаў кароткую праграмную прамову, у якой зазначыў, што ўрад будзе душыць усялякія спробы зваленьня істнуючага ладу. Парлямэнт у іменным галасаваньні прыняў вотум даверыя новаму кабінэту. Прапазыцыі камуністычных паслоў

# Аб нашай мове.

Як мы ёсьць цяпер асобны славянскі народ, так мова наша ёсьць цяпер асобная славянская мова.

Належыць наша мова да інда-гэрманскіх моваў; разьвілася яна з тэй галіны гэтых моваў, якая называецца славянскаю.

Як ведама, ўсе славянскія мовы падзяляюцца па сваіх асаблівасьцях на тры часткі: ўсходнюю, заходнюю і паўдзённую.

Дагэтуль расейскія вучоныя залічалі нашу мову да ўсходняе часткі, а некотарыя польскія вучоныя да заходняй. З другога боку можна сказаць, што многія і важныя асаблівасьці збліжаюць нашу мову з паўдзённай часткай славянскіх моваў.

Навука аб нашай мове разьвілася нядаўна. Навуковыя досьледы аб ёй пачаліся з агульных этнографічных досьледаў аб беларусах.

Спачатку нашы абпалячаныя паны, захопленыя на досьвецьці XIX стагодзьдзя рамантызмам, або прасьцей кажучы—народніцтвам, зацікавіліся жыцьцём свайго „хлопа“ і сталі запісваць нашы звычаі і абычаі, песьні ды казкі. І ў першай палове XIX стагодзьдзя найважнейшыя працы з беларускай этнографіі зьявіліся ў польскай літэратуры, бо тыя нашы паны пісалі папольску. Гэтыя людзі лічылі нас племем польскага народу, а мову нашу лічылі гаворкай польскае мовы.

Пасьля другога польскага паўстаньня дужа зацікавіліся беларусамі і расейскія вучоныя. Ім трэба было нястолькі дзеля навукі, колькі дзеля расейскае палітыкі, давесьці, што мы—не палякі, а мова наша—ня польская мова. Аднак, яны ўлезьлі ў другую абмылку, бо даводзілі, што мова наша—тая-ж маскоўская, толькі „ня чыстая“, мешаная з польскай мовай.

І можна сказаць, што скрозь усё XIX стагодзьдзе ў навуковых нават паглядах на нас і нашу мову панавала поўная блутаніна, няяснасьць і прост няведаньне. Ня ведалі нават, які назоў прыдумаць дзеля нас і дзеля нашае мовы. У польскай літэратуры называлі нашу мову рускаю (не мяшаючы з расейскаю, якую папросту называлі яны маскоўскаю, а паўчонаму расейскаю), называлі і крывіцкаю і пасьля беларускаю. У расейскай літэратуры пачалі былі называць нашу мову руськаю (з мягкім с у слове), крывічанскаю, славена-руськаю і яшчэ йначай, а нарэшце—беларускаю.

Але й тады ўжо людзі, якія мелі на ўвазе толькі карысьць дзеля расейскае ці польскае палітыкі, бачылі, што беларусы па сваёй мове, мусіць *асобны славянскі народ.* Так, прыкладам, ужо ў 1806 годзе пісаў немец Іоган Адэлюнг *), а пазьней гэтае думкі дзяржаўся вучоны расеец М. Надеждін, украінец Максімовіч і інш.

Цікава ад'значыць, што і ў самы нядаўны час у навуковых досьледах паасобных людзей адбываліся зьмены, чым болей яны пазнавалі нашу мову. Так нават акадэмік Карскі, родам беларус, у сваіх да-рэвалюцыйных томах капітальнае працы „Беларусы“, давodзіў, што наша мова—гаворка расейскай мовы, а з часам вызваліўся з-пад ранейшых уплываў у патрыятычнай расейскай навуцы і бліжэй падыйшоўшы да адраджэнскае беларускае культуры, праканаўся, што цяпер ужо наша мова—не „нарѣчие“ (гаворка) расейскае мовы, а самастойны славянскі „язык“ (мова). На лекцыі беларускім вучыцялём у Вільні ў 1919 г. ён казаў, што дзеля поўнае літэратурнасьці нашай мове бракуе, пакуль што, некаторых навучных тэрмінаў. Другі значны вучоны беларус, прафэсар М. Доўнар-Запольскі, які і раней дужа прыхільны быў да беларускага адраджэньня, у сваей кнізе „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі“, надрукованай у беларускай, расейскай, нямецкай, францускай і ангельскай мовах, навукова даводзіць нашу культурную самастойнасьць, як аснову, разам з другімі фактамі, нашае і дзяржаўнае незалежнасьці, магчымае, правамочнажыцьцёвае і патрэбнае.

Навуковыя досьледы паважных вучоных, як беларусаў так і людзей іншых нацыянальнасьцяў, у тым ліку расейцаў і палякоў, цяпер ужо цьвёрда устанавілі межы прастораў, на якіх чуецца наша мова. Расходзяцца вучоныя толькі ў драбніцах, як напрыклад, вучоны паляк праф. Бодуэн-дэ-Куртэнэ мову беларусаў Аўгустоўскага павету Горадзеншчыны называе польска-беларускаю моваю, а вучоны беларус акадэмік Карскі называе яе беларускаю, толькі дужа спольшчанаю. Або адны вучоныя прызнаюць мову Жыздрынскага павету Калускае губэрні расейскаю з дамешкаю беларускіх слоў, а другія кажуць, што гэта быўшая беларуская мова, дужа абмаскоўленая. Або паляшуцкую мову адны залічаюць да гаворкі беларускай мовы, а другія да гаворкі украінскае мовы.

Але спрэчка можа быць толькі аб мове на крайніх узьмежжах этнографічнае Беларусі, а ніводзін вучоны ўжо ня будзе цяпер спрачацца з тым, што на ўсёй этнографічнай Беларусі, прыблізна кажучы ад Дзьвінску, Вільні, Горадна і Беластоку аж да Ржэва (Тверской губ.), Дарагабужу (Смал. губ.), Бранску (Арлоўскай губ.) і Старадубу (Чэрнігаўскай губ.), а таксама ад Люцына (б. Віцебск. губ., а цяпер Латвія) і Вялікіх Лук (Пскоўск. губ.) аж да Пінску і ўздож Прыпеці, скрозь на гэтай зямлі—*адна мова, беларуская мова,*

„Адныя ў ёй словы й звароты—кажа беларускі вучоны-географ Смоліч,—бо яе стварыў адзін народ, што мае сваю асобную і рэзка выдзеленую душу“.

Даўгое і гвалтоўнае панаваньне на нашых землях расейскае і польскае культуры, без належнага адпору з боку задушанае эканамічна і таму нямеўшае сваіх нацыянальных інтэлігэнтаў беларускае масы, вайсковая служба і адходжыя заробкі ў чужых гарадох—зрабілі тое, што за астатнія гады і сялянская несьвядомая беларуская моладзь стала гаварыць калечанаю беларуска-расейскаю ці беларуска-польскаю гаворкаю, гледзячы на сваю родную, чыстую і прыгожую мову, як на нешта проста вясковае, належнае толькі цёмным бабам, не зазнаўшым ніякае „культуры“. Хоць даволі зьявіцца беларускай школе, кніжцы, тэатру, хору, палітычнай справе, зьвязанай з нацыянальным пытаньнем (выбары ў Варшаўскі Сойм), як усе шкадлівыя, ненатуральныя, некарысныя для праўдзівага культурнага разьвіцьця чужацкія налёты разьвейваюцца лёгкім ветрам, і ўсе беларусы, нават няўмеючыя гаварыць роднаю моваю, дружна становяцца на абарону яе правоў.

І тады на нашых землях выступае наша мова ў сваім чыстым харошым тоне, з многімі цікаўнымі асаблівасьцямі і не малымі розьніцамі па мясцовасьцях, як многі і не малы беларускія землі.

Так у паўночна-ўсходняй Беларусі есьць цокаючая гаворка, дзе кажуць: рэцка (рэчка), цужы (чужы), цалавек (чалавек)—Бельскі, Парэцкі, Вяліцкі паветы з часткамі суседніх).

У многіх мясцох Смаленшчыны, Магілёўшчыны і Чарнігаўшчыны ўжо ня цокаюць, але як і там, дзе цокаюць, ужываюць мягкі губ р і кажуць; старяцца, ряма, папрянуцца. Там-жа вымаўляюць словы на ы (мыладзік, замест маладзік, зылозы—запозы, пыгамыні—пагамані) ды ўжываюць там-сям даволі і маскоўскіх слоў (вор, нет, дзелаць).

На заход ад Себежу, Віцебску, Мсьціслаўля, Клімавіч і Навазыбкава—пачынаецца чыстая беларуская

*) *„Mitheidates oder allgemeine Sprachenkunde“.* Бэрлін, 1906 г.

аб скасаваньні загадаў прэзыдэнта, абмяжоўваючых свабоды, адкінуты.

---

Урад абвясьціў, што часова спыняе ўсялякія дастаўкі і сплаты натурай для Англіі, Грэцыі, Італіі, Югаславіі, Партугаліі і Румыніі з прычыны напружаньня ўсіх гаспадарчых сілаў з мэтай забясьпечыць уласную люднасьць ад голаду і нэндзы.

---

У Бэрліне адбыліся вялікія дэманстрацыі работнікаў, на вуліцах пастроены былі барыкады, арганізуюцца пролетарскія сотні. Улада ў Саксоніі і Тюрынгіі знаходзіцца ў руках работнікаў. Забурэньні пашыраюцца па ўсёй Нямеччыне. Асабліва востры характар прыймаюць у Гамбургу і на окупаваных абшарах. Забастоўкі ахопліваюць новыя цэнтры і галіны прамысловасьці. Бастуюць сельска-гаспадарчыя работнікі. Шмат дзе абʼяўлена асаднае палажэньне.

---

Саксонская соцыяль-дэмакратычная партыя прыняла рэзалюцыю, ў якой выказываецца зьдзіўленьне, што соц.-дэмакр. фракцыя рэйхстагу на ўласную руку пастанавіла аб уваходзе соц. дэм. паслоў у кабінэт Штрэзэмана. Соц.-дэмакр. партыя Саксоніі востра асуджавае гэткую дзейнасьць соц.-дэм. фракцыі і дамагаецца склíканьня соц.-дэмакратычнай конфэрэнцыі.

## С. С. С. Р.

Чычэрын выслаў да баўгарскага ўраду пратэст проціў гвалтаў белагвардзейскіх эмігрантаў і баўгарскіх уладаў адносна да мірных грамадзян Радавых Рэспублік, пражываючых у Баўгарыі.

---

Амэрыканскія сэнатары Кінг і Лед выехалі ў Радавыя Рэспублікі. Перш яны едуць у Сыбір, пасьля на Каўказ, адкуль праз Украіну прыедуць у Маскву.

---

Назначаны ў спэцыяльную місію ў Кітай Карахан выехаў з Масквы. У размове Карахан, адʼзначыўшы вялізарнае значэньне ціха-акіянскай проблемы, заявіў, што галоўнае заданьне яго місіі састаіць у ўрэгуляваньні ўзаемнаадносінаў Радавых Рэспублік з Кітаем, асабліва вырашэньне пытаньня Ўсходня-Кітайскай жал.-дар., дзе яшчэ гаспадараць рэшткі белагвардзейскай арміі, затым урэгуляваньне праўнага становішча радавых грамадзян у Кітаі і ўрэшце стварэньне варункаў эканамічнага збліжэньня абодвых краёў.

---

На Ніжагародзкую ярмарку прыбыло тавараў у 7 разоў больш, як у леташнім годзе. Кідаецца ў вочы павялічэньне дробнага гандлю ў параўнаньні да леташняга году. Ярмарку адчыніў Рыкаў прамовай, у якой адʼзначыў вялікае значэньне ярмаркі для задаваленьня сялянства прадметамі фабрычнага вырабу, а таксама міжнароднае значэньне Ніжагародзкай ярмаркі, якая зьвязвае Радавыя Рэспублікі з народамі ўсходу.

## БАУГАРЫЯ.

Ваенны трыбунал судзіў быўшых міністраў кабінэту Стамболійскага; 4 прысуджаны к сьмерці. 2— на бестэрміновую катаргу і 3—на 5 гадоў вастрогу.

## ЮГАСЛАВІЯ.

Прыхільнікі Радзіча запэўняюць, што ён ня ўцёк заграніцу, а хаваецца ў краі; але дзе ён знаходзіцца не паведамляюць, каб урад не напаў на яго сьлед.

## ФРАНЦЫЯ.

Курс францускага франка ўсё паніжаецца. Даляры і ангельскія фунты ідуць уверх.

---

Францускія палітыкі апрацоўваюць ноту ў адказ на апошняе выступленьне Англіі. Пераважаюць пагляды не рабіць ніякіх уступак у справе Руры і ўхіляцца ад усялякіх беспасрэдных перагавораў з немцамі ў гэтай справе.

## ГДАНСК.

Забастоўкі ў Гранску закончыліся. Партовыя работнікі будуць адтрымліваць па 4.200.000 марак у дзень.

## АМЭРЫКА.

Газэты, падтрымоўваючыя ўрад, абгавараваюць сытуацыю, выкліканую ангельскай нотай. Выказваюцца пагляды, што Амэрыка павінна ўзяць учасьце ў вырашэньні рэпарацыйнага пытаньня, але калі адтрымае запросіны з боку Англіі і Францыі. Прэзыдэнт Куліджа дакладна знаёміцца з гэтай справай.

## ІТАЛІЯ.

У Істрыі ў шмат якіх мясцох фашыстоўскія арганізацыі зачынены. Фашысты скардзяцца Мусоліні, што ўрадовы камісар Істрыі масон і дзеля гэтага няпрыхільна адносіцца да фашыстаў.

---

У Мілане фашысты купілі найбольшую ў Італіі газэту „Secolo".

## Сэнатар дэ-Монзье аб адносінах да С.С.Р.Р.

Францускі сэнатар дэ-Монзье, які едзе ў Маскву, заявіў супрадоўніку газэты „Le Journał de Pologne": „Не выпаўняю місіі, але абавязак. Спраўджу тое, што заўсёды гаварыў у прэсе і з трыбуны, што Францыя павінна завязаць офіцыяльныя зносіны з Саюзам Соцыялістычных Радавых Рэспублік. Можна праз нейкі час не прызнаваць факту, але гэта ня можа трываць заўсёды. Еду ў С. С. Р. Р., каб на падставе досьледу гаварыць з маімі таварышамі ў парлямэнце. У падарожы буду каля двух тыдняў. Лічу, што на граніцы спаткаюся з прадстаўнікамі Радаў. Нічога ня маю скрываць. Ня думаю, каб можна было ігнараваць рэволюцыю і цэлы народ". Як бачым жыцьцё застаўляе нават архі-буржуазную Францыю сурʼёзна лічыцца з Саюзам Соцыялістычных Радавых Рэспублік.

## Конфэрэнцыя міжпарлямэнтарнай уніі.

У Копэнгагэне распачалася міжпарлямэнтарная конфэрэнцыя. Абгаварываецца пытаньне аб парлямэнцкім кантролі заграніchнай палітыкі.



# З Літоускай прэсы.

## У абароне сялян.

Віленская літоўская газэта „Lietuwos Rytai", разглядаючы зямельную рэформу ў Польшчы, піша:

> Што-ж робіцца з безьзямельнымі, малазямельнымі і простымі батракамі? Хто клапоціцца аб зямлі для іх? Яны прападаюць, гінуць ў дварох без зямлі, і як ў даўнейшыя часы зусім залежаць ад ласкі свайго пана, бо кожную гадзіну могуць быць выкінуты вон. Зямлю прадаюць усім на даляры, золата, абы-толькі былі ў каго грошы. А каго-ж надзялялі зямлёй? Але, сапраўды дзялілі. Але адтрымалі зямлі тыя, якія ніколі сваімі рукамі яе не абраблялі і ня абробяць. Адтрымалі двары ў Віленшчыне Пілсудскі, Жэлігоўскі, біс. Бандурскі, Токаржэўскі, Бобіцкі і шмат інш. „землябаў". „Безьзямельныя" гэтага гатунку адразу прадалі з сваіх двароў усё, што можна было прадаць і больш аб справе зямлі яны і ня рупіліся. І нічога дзіўнага, для іх гэта занізкая праца. Яны і так лёгка зарабляюць вялікія грошы.

Далей газэта зазначае, што калі парцэлююцца панскія двары, дык пераважна на так званых „Крэсах", каб прышчапіць там польскасьць і зрабіць вайскавую заслону.

> Толькі цяпер насоўваецца пытаньне, дзе падзенуцца ўсе безьзямельныя і малазямельныя, якіх у нас так шмат? Праўда, польскі міністар зямляробства Рачынскі, радзіў усім безьзямельным ехаць на выспу Мадагаскар, усе французы абязаліся даць колькі-толькі трэба зямлі. Аднак там пануе трасца, якая ня бачымая Эўропай гоніць людзей у магілу. Там, як відаць, і вызначана месца нашым бедаком-безьзямельным.

Гэтым нас пан Рачынскі не задзівіць, мы на ўсё прыгатаваны, бо ўсяк можа ў нас быць.

**А. Д.**

---

мова, лёгшая ў аснову сучаснае літэратурнае беларускае мовы з задаткам лепшых асаблівасьцяў другіх беларускіх гаворак.

Можна сказаць так, што галоўная беларуская гаворка займае сабою блізу ўсю сярэднюю і заходнюю Беларусь—раёны Менску, Магілёва, Полацку, Слуцку, Вільні.

Але на захадзе Беларусі на паўдзён ад Вільні, а таксама ў Аўгустоўскім, Сакольскім, Беластоцкім паветах ужо чуюцца меншыя ці большыя ўплывы польскае мовы. Асабліва беларусы—каталікі, а ў сумежных з Польшчаю кутках Горадзеншчыны і праваслаўныя ўжываюць даволі часта словы польскія (цёнгле, дрэнна, тэраз).

На поўдзень ад лініі Горадзен-Слонім-Гомель ёсьць паўднёвая беларуская гаворка так званых беларусаў сакуноў, якія кажуць: загаманіўса, рупіўса, хаваўса... Там-жа ёсьць і другія асаблівасьці, напр: заместа будуць хадзіць—кажуць: хадзіціму і г. д.

На гаворку беларусаў Пінскага, Кобрынскага паветаў і наагул пінчукоў, апрача сваіх провінцыяльных асаблівасьцяў, вялікі ўплыў робіць украінская мова, хаця Піншчына з прадвеку складала частку беларускіх земляў.

А на ўсіх, вышэй з большага азначаных, беларускіх землях усё-ж ёсьць адна беларуская мова. І ведаць, што такое беларуская мова, гэта знача, як кажа прафэсар П. А. Растаргуеў *)—„ведаць яе ўва ўсей разнавобразнасьці складаючых яе гаворак". Выступаць з крытыкаю нашае чучаснае літэратурнае мовы, ведаючы толькі мову аднэй вёскі ці аднэй беларускай мясцовасьці, як гэта любяць рабіць няўчоныя ворагі нашага адраджэньня,—мягка кажучы—сьмешна. Той-жа прафэсар, гаворачы, чаму ён да беларускае мовы ўжывае слова гаворка (нарѣчіе) адзінае калісь рускае мовы і самастойная мова (якык), як да польскай ці расейскай мовы ўжывае: славянская гаворка (нарѣчіе) і самастойная мова (язык), піша:... „гэтыя (беларускія) гаворкі пры ўсіх сваіх асаблівасьцях маюць чырты агульныя дзеля ўсіх іх, чаму і лучацца ў адну вялікую групу—беларускую мову („бѣлорусскій язык"). Наколькі кажа ён, сучасная беларуская, украінская і маскоўская мовы, вышаўшыя з аднаго караня, жывуць цяпер самастойным поўным жыцьцём, натолькі яны—самастойныя мовы. Да гэткіх-жа заключэньняў, дзякуючы нязвычайнаму ўзросту беларускае літэратуры і культуры наагул, зробленым за апошняе дзесяцёхгодзьдзе, дайшлі і Карскі, і Бодуэн-дэ-Куртэнэ, з тэй хіба розьніцаю, што жыцьцёрадасны Растаргуеў глядзіць на будучыну нашае мовы дужа оптымістычна, а стары Бодуэн-дэ-Куртэнэ верыць—ня верыць, *) каб навуковая беларуская мова ўтрымалася побач з існаваньнем ужо гатовае для беларусаў навуковае мовы... расейскае... (!) Мусіць, старая слава пецярбурскага вучонага—лібэрала не дазволіла гэтаму вучонаму паляку, як другім яго родзічам, парэкамэндаваць нам дзеля навуковых патрэб ...польскую мову,

Ну, але само жыцьцё скажа сваё слова, а яно ідзець у нас сёньня, яшчэ прутчэй, чымся ўчора, заўчора...

Што да пісанае гісторыі нашае мовы, дык яна займае ў вучоных (Карскі і інш.) цэлыя томы і маець залатыя старонкі, якімі мог-бы пахваліцца кожны народ, мова якога дасягла цяпер сусьветнага значэньня. Аб гэтым у другі раз. Цяпер-жа ня можам абыйсьці моўчкі лямантаў тых нашых злосьнікаў, зазвычай схаваных у скурку розных дабрадзеяў ці нязвычайна паступовых людзей, якія „папрыяцельску" радзяць нам не марнавацца над адраджэньнем свае „мёртвае" мовы, калі ёсьць дзеля нас жывая; праваслаўным—расейская, каталіком—польская мова. Усе гэтыя дабрадзеі запраўды хочуць дапяць аднае мэты: калі не задушыць, дык хаця затамаваць наш культурны рух, бо ён зьвязвае нас у адзін народ, узмацняе наша соцыяльнае вызваленьне і ставіць на дзенны парадак палітычнае беларускае пытаньне, адным словам прыбліжвае грозны мамэнт аканчальнага парахаваньня беларускае масы з гэтымі дабрадзеямі. Справа цяпер ясная кожнаму, і ёй ня трэба як кажуць комэнтарыяў. Толькі зьдзіўленьне могуць выклікаць выбрыкі іншае натуры, кшталтам пісаніны аб беларускай мове аднае нібы-то камуністычнае газэты ў Амэрыцы на расейскай мове. Газэта гэтая, каб разьбіць нацыянальныя беларускія арганізацыі ў Амэрыцы, таксама піша аб „мёртвых" і „жывых" мовах. Але-ж калі гэтак піша ў той газэце не правакатар, а прост паслужлівы мядзьведзь, дык можам сказаць яму: не компромітуйце пролетарскае справы сваім няўмельствам, азірніцеся дзеля навукі на дзеяльнасьць камуністаў у Раднай Беларусі і на разьвязку нацыянальнага пытаньня ўва ўсім Саюзе Радных Рэспублік. Разьбіць беларускія арганізацыі, калі яны ня йдуць пролетарскім шляхам і не абмяжаюць свае дзеяльнасьці чыста-культурнаю працаю,—трэба для камунізму. Але ня трэба ісьці дя гэтага малаграматнымі нападкамі на беларускую мову. Ня трэба зьневажаць беларускую культуру. Ня трэба баламуціць нясьведамых нацыянальна беларускіх работнікаў, бо ўрэшце-ж яны стануцца сьвядомыя. Ня трэба сеяць горыч у творчых культурных беларускіх сілах, адпіхаючы іх сваім няўмельствам ад агульна-пролетарскага культурнага будаўніцтва,—асабліва тады, калі буржуазныя апякуны так спрытна ўмеюць прыкінуцца ў разе патрэбы і паказаць сваю пашану да нацыянальных пачуцьцяў і жаданьняў гэтых беларускіх культурных працаўнікоў.

Мы хочам жыць з сваёю роднаю моваю. Хочам разьвіваць яе, вучыцца на ёй у пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школе, тварыць у ёй неўмірушчыя поэтычныя рэчы, давесьці яе да сусьветнага значэньня. Для нас крыўда разважаць аб тым, маем мы права ці ня маем, здолеем ці ня здолеем. Мы так хочам. Гэта наша воля. І мы так робім. Сьмерць нашае мовы—наша нацыянальная сьмерць. А мы ўміраць ня хочам пакуль жывуць іншыя нацыянальнасьці. І будзем змагацца за нашу мову, як змагаюцца за жыцьцё: усё дазволена... Можа некалі, разам з усімі народамі, памяняем нашу мову на адзіную, міжнародную, сусьветную мову, але ніколі не памяняем на расейскую ці польскую, ці іншую. У першым выпадку, калі гэта калісь астанецца, будзе патрэба часу, патрэба агульнага разьвіцьця чалавецтва, пераход бяз болю, без калечаньня душы, тады як у апошнім выпадку, пераходзячы на расейскую, польскую ці іншую мову мы робім дзікі гвалт над самымі сабою, спыняем натуральны ход культурнага разьвіцьця беларускага народу. Апрача таго гэтыя мовы хоць яны і даюць культурныя цэннасьці ня могуць раскараніцца ў нас, бо яны сымвалізуюць шматвяковы культурны ўціск.

Здаровая душа маладой беларускай нацыі, як і усё маладое, хоча жыць і знойдзе даволі сіл і энэргіі, каб захаваць сваю самабытнасьць і сьпіхнуць з сваей дарогі „дабрадзеяў" у тую яму, якую яны капаюць для беларускага руху.

**С. Б.**

---

*) „Курс белоруссоведения", Москва 1918--1920 г. г.

*) „Варшавское Слово" 1920 г. № 93.

